НІВА

Год выдання V

№ 28 (228)

10 ЛІПЕНЯ 1960

БЕЛАСТОК

Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



Літаратурны музей Янкі Купалы ў Мінску.

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

## ЧАЙКА

Проста ў хвалі, што чарадою
Гоніць злосны пастух - ветрадуй,
Чайка падае перада мною:
«Пашкадуй мяне, пашкадуй.
Не страляй мяне, чалавеча,
Стрэльбу страшную апусці.
Сэрца рвецца. На хвалях вецер
Грывы белыя закруціў».
Супакойся.

Плакаць не трэба.

Лі спакойна крыклівы жаль
Пад чырвоным, ветраным небам
На узгоркі бурыя хваль.
Я, каханнем сваім расстраляны,
Усё жывое шкадую цяпер,
І мяне на лясных палянах
Не баяцца птушка і звер.
І ў руках не стрэльба, а палка,
І іду я ў далёкі шлях
Ад прыгожай, ад лепшай, ад палкай
Ад пагарды ў шэрых вачах.
Я іду спакойна, — ты бачыш, —
Мернай, цвёрдай сялянскай хадой...
Толькі часам сэрца заплача,
Быццам чайка над сівай вадой.

# ДЗЕЛЯ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ

Шмат намаганняў пакладае партыя і ўрад дзеля стварэння належных умоў навучання для падрастаючага пакалення. Балючай справай з'яўляецца недахоп школьных будынкаў. Для канчатковага пераадолення гэтых цяжкасцей неабходная дапамога ўсяго грамадства. У школах навучаюцца нашыя ж дзеці і наш абавязак — прыкласці і свае сілы для забеспячэння ім належных умоў навучання. На колькі мы можам дапамагчы нашым дзецям у гэтай справе можна пераканацца хаця б на прыкладзе вёскі Стрыкі, Бельскага павета, жыхары якой належна разумеюць лозунг — 1000 школ на Тысячагоддзе.

Каля 26 вучняў навучалася тут у сялянскай хаце. Ды і атрыманне нават такога памяшкання каштавала сялянам з Стрыкоў шмат намаганняў. Аднак гэтае памяшканне спатрэбілася ў апошнім часе яго ўладальніку. І зноў устала праблема дзе навучаць дзяцей.

Каб пакончыць раз і назаўсёды з такога роду турботамі, трэба было тут узяцца за пабудову школы.

Восень 1958 года. На гра-



ВЁСКА СТРЫКІ
(фота — аўтара)

мадскім пляцы ў Стрыках ажыўленне. Прадаецца другі пакос сена. За сена сяляне атрымліваюць 350 злотых, якія вырашана прызначыць на пабудову школы. І вось гэтыя 350 злотых сталі пачаткам вялікай справы.

Арганізуецца грамадскі камітэт пабудовы школы, у які ўвайшлі Уладзімір Антанюк, Рыгор Краўчук, Іван Краўчук, Уладзімір Сідорскі і Іван Бурынскі, якія, хоць і з 350 злотамі ў кішэні, не адкладаючы спраў на доўгую полку, прыступілі да працы. Збіраецца вясковы сход. На сходзе вырашана скласці па 500 злотых ад кожнай гаспадаркі і такім чынам сабраць патрэбныя сродкі. Пасля агульнай складчыны сума, якой распараджаецца камітэт, павялічылася да 35 тысяч злотых. Маючы такую суму, можна было ўжо звярнуцца за дапамогай да ўлад. У інспектараце асветы ў Бельску аднесліся да намаганняў сялян з належнай увагай. Адбылася сустрэча інспектара з грамадскасцю Стрыкоў і справа пабудовы школы пачала набіраць жыццёвыя формы. Апрача складзенай сумы грошай, сяляне абавязаліся звесці грамадскім чынам усе патрэбныя матэрыялы і выканаць усе некваліфікаваныя працы.

Кожная разумная грамадская ініцыятыва заўсёды знаходзіць усебаковую падтрымку з боку ўлад. Ідучы насустрач сялянскай ініцыятыве, кураторыум беластоцкай школьнай акругі абавязаўся пакрыць 70 працэнтаў коштаў пабудовы школы. А трэба адзначыць, што яны будуць немалыя. Школа будзе мураванай і будуецца па тыповаму праекту. Кошт пабудовы самаго будынка школы аблічваецца на 230 тыс. злотых.

Атрымаўшы такую падтрымку з боку ўлад, можна было прыступіць да канкрэтных прац. Будаўніцтва даручана Бельскаму рамонтна - будаўнічаму прадпрыемству. Што ў Стрыках не любяць кідаць слоў на вецер, пацвердзілася ў канкрэтных працах.

Пры закладцы фундамента працаваў толькі адзін спецыяліст з МПРБ, усе астатнія працы выконвала насельніцтва грамадскім чынам, і на працягу двух дзён фундамент быў гатовы. Аб энтузіязме і зразуменні сялян сведчыць факт, што ў пабудову школы актыўна ўключыліся нават старэйшыя жыхары вёскі, якія не маюць дзяцей у школьным узросце. Да гэтага часу ўклад грамадскіх сродкаў насельніцтва, як фінансавых, так і самых прац, дасягае ўжо 60 тыс. злотых.

Усю вёску ахапіла жаданне закончыць пабудову яшчэ ў бягучым годзе. Зразумелай з'яўляецца тады тая нецярплівасць, з якой чакаюць сяляне на выкананне Беластоцкім бюро праектаў каштарыса будаўніцтва, каб можна было як найхутчэй распачаць далейшыя працы.

Усё для школы — вось думка, якая хвалюе ўсіх. Дзеля гэтага сяляне не пашкадуюць і працы для пераносу ў іншае месца будынка пункта скупу малака, які ўсяго толькі некалькі год назад пабудавалі таксама грамадскім чынам на пляцы, на якім зараз будзе ўзведзены будынак мясцовай школы.

Усё гэта гаворыць аб тым, што тут жывуць згуртаваныя і разумныя людзі, якія ведаюць чаго ім трэба, а гэтае веданне падмацоўваюць канкрэтнай і карыснай для грамадства працай. Можна тады не сумнявацца, што ў бліжэйшым часе школьная моладзь з Стрыкоў пачне навуку ў новай, добраўпарадкаванай школе, чаго шчыра ім жадаем.

П. ЧЭРНЯКЕВІЧ

## Пачатак Грунвальдскіх урачыстасцей

3-га ліпеня ва ўсёй краіне адбываліся ўрачыстасці ўзяцця зямлі з тых месц, дзе была праліта кроў нашага народа ў вайне з гітлераўскай навалай. Зямля гэтая будзе завезена на грунвальдскі помнік. Гэтыя ўрачыстасці адкрылі святкаванне 550-ай гадавіны перамогі над крыжаносцамі пад Грунвальдам. У Беластоцкім ваяводстве ўзяцце зямлі з месц барацьбы адбыліся ў Райску (Бельскі павет), у лесе на Пілатоўскім тракце (Сакольскі павет), у Белавежскай пушчы, у Сухой Рэчцы (Аўгустоўскі павет), у Чырвоным Крыжу (Сэйнэньскі павет), а таксама ў Беластоку ў былым Гета.



Ствол грушы з ваколіц Юшкавага Груда.
фота — Аляксей Казберук

# СЛОВАМІ ЗАПІСЧЫКА

Бор пацягнуўся ўправа, сцежка вывяла да дарогі, з левага боку якой пясчаныя ўзгоркі пакрываюць кусты мажэвельніка, і з-за кустоў выцягваюць свае коміны сялянскія хаты. Праз хвіліну на ўзгорку акрэсліўся вялікі будынак з цэглы, а далей, налева, яшчэ адзін доўгі цагляны будынак. Гэта пабудовы сельскагаспадарчага кааператыва ў Зубрах.

Адзін з кааператыўшчыкаў, мужчына год пад 50, поіць коней пры спулдзельчай студні ля аборы; на падводзе ляжаць бораны. На пытанне «дзе можна сустрэць вашага старшыню?» адказаў:

— О, цяпер вы нікога з кааператыўшчыкаў не спаткаеце дома. Усе ў полі. Зайдзіце да рахункавода.

Сямёна Сямёнчыка, рахункавода кааператыва ў Зубрах, застаў я ў хаце, седзячага за сталом пры раскладзеных справаздачных паперах. Пайшла ў нас гутарка пра кааператыў.

Сельскагаспадарчы кааператыў у Зубрах быў арганізаваны ў 1952 годзе.

Зараз кааператыў гаспадарыць на 150-ці гектарах ворнай зямлі. Зямля не надта ўраджайная. Хопіць сказаць, што толькі 17 га мае ІV клас, а рэшта V-ты і VІ-ты. Але члены кааператыва не наракаюць на неўраджай. Напрыклад, жыта было больш 13-ці цэнтнераў з 1 га, калі ў адных наасобнікаў — толькі па 7—9 ц з 1 га. Падобна справа выглядае і з іншымі сельгаскультурамі. Не горш прадбачваецца ўраджай у бягучым годзе ў параўнанні да мінулага года. Быў бы ён лепшы, напрыклад — жыта, але пашкодзіла веснавая галаледзіца.

Кааператыў мае каля 40 працаздольных людзей. Большасць палявых і іншых звязаных з гаспадаркай прац выконваецца пры дапамозе машын. Кааператыўшчыкі маюць амаль усе неабходныя сельскагаспадарчыя машыны, як трактар з прычэпам да абворкі зямлі, сеўнікі, абмалотачны агрэгат, электрычныя рухавікі і інш. Няма яшчэ касілкі і грабілкі, але гэтае намераны купіць у бліжэйшы час. Кааператыўшчыкі намераны выкамбінаваць крыху грошай на пабудову спецыяльнага гаражу на машыны і пабудову стадолы. Зразумела, што патрэбна будзе пры гэтым дзяржаўная пазыка, бо кошт гэтых двух пабудоў складзе вялікую суму грошай.

— Аб заўтрашнім трэба думаць сур'ёзна, — гавораць кааператыўшчыкі. Таму яны паставілі сабе мэту — развіваць жывёлагадоўлю.

**У РАЗМОВЕ З АГРАНОМАМ**

— Каб пашыраць жывёлагадоўлю, трэба павялічваць кармавыя рэсурсы, — кажа Браніслаў Левань, аграном спулдзельні. — Дзеля гэтага м. інш. трэба паправіць стан сенажацяў і пасбішч. Восенню заарэцца каля 10-ці гектараў сенажацяў і 8 га пасбішча звалуецца цяжкім валам (з мэтай выраўнання) і будзе ўкладзена адпаведнае ўгнаенне. На апошняе дагэтуль звярталася малая ўвага.

— Усё яшчэ многа аблогаў у нашым кааператыве. Яны займаюць трэцюю частку ўсёй зямлі VІ-га класа. У бліжэйшыя гады трэба будзе выкарыстоўваць гэтую зямлю пад кармавы лубін, — гаворыць аграном.

За парадаю і пры апецы агранома ў жніўні на 2-х гектарах пасеецца азімую віку з жытам для ўборкі на корм вясною. А ў палове чэрвеня, адразу пасля ўборкі гэтай зялёнкі, можна будзе садзіць на тым жа полі бульбу. Такім чынам, у адным годзе збярэцца 2 разы ўраджай. Эксперымент гэты будзе новым, і калі добра пойдзе, будзе паўтарацца на большым абшары.

Агр. Б. Левань праводзіць розныя доследы на шматлікіх палетках, м. інш. і з насенным лубінам, бульбай, кукурузай і інш. раслінамі. Абяцаюць быць добрымі буракамі, якія пасаджаны на 2-х гектарах. Да іх праполкі прыменена конная трапалачная машына. Машына сэканоміла людзям каля 100 нармальных працадзён.

Так, з сур'ёзнай думкай аб будучыні працуюць і плануюць зуброўскія кааператыўшчыкі.

М. КУРАШ

# З клопатам аб ураджаі

Шумяць і наліваюцца каласістыя жытнёвыя палі. Недалёкі ўжо час, калі працавітыя сялянскія рукі прыступяць да зборкі абільнага ўраджаю. Ужо зараз ідзе падрыхтоўка да такога важнага перыяду прац, як уборка хлябоў. Праяўляецца гэта між іншым і ў павышанай зацікаўленасці сялян сельгасмашынамі, асабліва звязанымі з надыходзячым жнівом. Старанна рыхтуюцца да жніва і сельгасгурткі. Толькі на працягу мая і чэрвеня сельскагаспадарчыя гурткі ў Агароднiках, Нарве, Новым Беразове, Міклашэве, Курашаве, Вялікіх Пасечніках і Збучы купілі абмалотачныя агрэгаты з усім абсталяваннем.

У некаторых сельгасгуртках складаюцца ўжо планы выкарыстання купленых машын. Так у Міклашаве, апрача ўласных укладаў членаў сельгасгуртка 20 сялян склала ўжо заяўкі на працу машын і ўнесла 3 тыс. злотых.

Аднак, нягледзячы на надыходзячае жніво, некаторыя гурткі не спяшаюцца з пакупкай сельгасмашын. Так, напрыклад, сельгасгуртск у Арэшкаве ўсё неяк не можа сабраць сродкаў, нягледзячы на тое, што ахвотныя да пакупкі машын ёсць. Жнівс ўжо недалёка, і неабходна дзейнічаць больш рашуча.

Належная ўборка і абмалот ўраджая — справа агульнай вагі.

(пч)

# Найлепш з фінансавымі належнасцямі

Там, дзе добра працуе прэзідыум грамадскай рады нарадовай, дзе добра спраўляюцца са сваімі абавязкамі старшыня і сакратар ГРН, там і дасягненні вялікія ў развіцці грамады, а таксама і ў выконванні сялянамі сваіх гаспадарскіх абавязкаў.

У Бацiках Сярэдніх старшынёй прэзідыума з'яўляюцца Аляксей Рушко, а сакратаром — Кацярына Пракопюк. Дзякуючы іх арганізатарскай працы і ўмеламу падыходу да сялян, грамада Бацікі Сярэднія з'яўляецца самай перадавой у выконванні сялянамі фінансавых належнасцей. Там датэрмінова заўсёды ўплачаны гаспадарамі падаткі, належнасці ПЗУ і за электрыфікацыю, а таксама аплаты за дзяржаўны фонд зямлі. Грамада Бацікі Сярэднія заўсёды наперадзе і з выконваннем абавязковых паставак мяса, збожжа і бульбы. М. Х.

# Што выказвае сельскагаспадарчы перапіс

Як выказвае апошні сельскагаспадарчы перапіс, на тэрыторі грамадскіх рад нарадовых наглядаецца ўзрост жывёлагадоўлі. Так на тэрыторыі ГРН у Пасынках, Бельскага павета, сяляне, якія гаспадараць на 6103 гектарах зямель, гадуюць зараз 1920 кароў, у параўнанні да 1840 у мінулым годзе, 3986 свіней — на 2932 ў 1959 г. Што датычыць коней, то лік іх паменшыўся тут на 60 штук. Зараз сяляне гадуюць 1005 коней — на 1065 штук у 1959 г. Узрасла жывёлагадоўля і ў вёсках, якія належаць да ГРН у Кленіках, Гайнаўскага павета.

Побач з узростам жывёлагадоўлі на палі Беласточчыны пачынае ўваходзіць кукуруза. На тэрыторыі ГРН у Кленіках засеяна гэтай карыснай культурай 5 гектараў, а на тэрыторыі ГРН у Пасынках — 0,46 гектара.

(пч)

# За ўласныя сродкі

Каб не было клопатаў з дастаўкай малака сяляне з Сакоў, Бельскага павета, вырашылі пабудаваць грамадскім чынам у сваёй вёсцы пункт скупкі малака. Сяляне сабралі патрэбную колькасць грошай, купілі будаўнічыя матэрыялы і прыступілі да пабудовы.

Ідучы насустрач грамадскай ініцыятыве, мясцовы прэзідыум грамадскай рады нарадовай прыдзяліў для Сакоў 4 тысячы злотых. Аднак сяляне вырашылі пабудаваць пункт скупкі выключна за ўласныя сродкі і адказаліся ад прызначаных ім грошай. Гэта дазволіць прэзідыуму мясцовай ГРН прызначыць гэтую суму для іншых мэт, а сялянам з Сакоў за высокую грамадскую свядомасць належацца словы прызнання.

(пч)

Шафран пяшчотна гладзіў бліскучы, шаўкавісты паперак банкноту. На ім побач вычурных узораў віднелася лічба 1 і надпіс «онэ доллар».

«А што,—падумаў Шафран,—каб да адзінкі ды дапісаць два нулі. Дзесяць тысяч злотых адным махам! — Ён аж падскочыў ад гэтай думкі. — І хто ж пазнае гэта? Многія ані аднаго, ані сто долараў не бачылі. — Ён старанна дамаляваў да адзінкі два нулі. — Цяпер бы толькі добрага купца!».

На панадворку пачуўся топат нейчых крокаў. Шафран схаваў хутка банкнот за образ і глянуў у акно.

«Зноў гэты галыш грошы пазычаць ідзе, — скрывіўся нездаволена. — Скуру ён дастане, а не грошы. Тыя б, што ўжо вінен, сцягнуць». — Праўда ён самых працэнтаў сцягнуў ужо больш, чымсь пазычыў, але ж гэта не лічыцца.

У хату ўвайшоў Віктар. Шафран адгадаў мэту яго прыходу, і адказаў не тоячы непрыхільнасці. Раптам ён як бы перамяніўся. З усмехам падышоў да Віктара і, кляпнуўшы па-сяброўску па плячы, сказаў:

— Не злуй браток, не маю грошай. Але ахвотна табе памагу. Маю вось на чорную гадзіну сто долараў. Шкада мне іх. Але і мне дазарэзу грошы патрэбны. Вазьмі. Прадай за дзесяць тысяч — тысячу табе пазычу.

— Дзе ж я іх прадам, — здзівіўся Віктар, які ніколі не меў дачынення з доларамі.

— Да Костры пойдзеш у Тапчэва, ён ахвотна купіць. Сам бы гэта зрабіў, — прадаўжаў ён, бачачы нерашучасць Віктара, — але пасварыўся з ім.

«Ну і чорт з ім, — думаў пасля Шафран, паціраючы задаволена рукі. — Калі і не аддасць тысячу злотых, дык і так 9 тысяч дарма ў рукі прышло. Дый гэтага старога дурня правучу. Хай не бярэцца не за сваю справу». Ён не любіў Костру як свайго канкурэнта ў гандлі валютай.

Некалькі тыдняў пасля Костра забраў з сабой падроблены банкнот у Беласток. «11 тысяч найменш дастану», — думаў ён, ідучы да знаёмага гандляра загранічнай валютай.

— Што ж ты мяне за дурня прымаеш, — сказаў гандляр, агледзеўшы банкнот. — Тут жа і сляпы ўбачыць, што два нулі дапісаны.




Костра вяртаўся дамоў раз'юшаны, як ранены дзік. Мала таго, што банкнот не прадаў, яшчэ і стыду наглытаўся. «Ну, але я яго правучу — адхочацца яму другі раз людзей ашукваць».

«Лёгка сказаць — правучу, — адазваўся ў ім як бы нейкі другі голас. — Мо' ў міліцыю заявіш, і сам пасля гэтага з бяды не выкарабкаешся».

Вярнуўшыся дамоў, ён рашуча направіўся да Віктара.

— Не спадзяваўся я гэтага ад цябе, — зачаў ён перад здзіўленым ад неспадзяванага візіта Віктарам. Да чаго гэта падобна, каб так людзей ашукваць.

— Дык гэта ж не я, я ў Шарфана дастаў, — бараніўся Віктар.

«Дык гэта той стары махляр мяне падвёў», — думаў, скрываючы злосць, Костра. — Але ў Шафрана з горла нават усе пякельныя сілы разам залатоўкі не вырвуць. Трэба Віктара прыцiснуць?».

— Шафран — не Шафран, мне ўсё роўна, — сказаў ён. — Грошы я табе даў, і ты іх мне вярні. А не вернеш, заяўлю ўладам, што доларамі гандлюеш, ды яшчэ і падробленымі. Ведаеш, што за гэта будзе?.

— Я гандлюю доларамі? Мяне за гэта ў турму пасадзяць? — здзівіўся Віктар. — А цябе пэўна па галаве пагладзяць?.

— Я гэтым не займаюся, — адказаў скромна Костра, — мне гэтага нічым не дакажаш. А ты вось прадаеш падробленыя банкноты. Падумай добра, — дадаў Костра выходзячы з хаты. Даю табе два тыдні часу на разлік са мной.

Віктар, не чакаючы доўга, амаль бегам накіраваўся ў Бранск да Шафрана.

— Не дастанеш грошы. Не трэба было банкнот назад ад Костры прымаць. Прыняў, дык цяпер сам з ім і разлічвайся. А я тут не пры чым. — Шафран адказаў спакойна, абыякава, як бы справа з ім нічога супольнага не мела.

— Да пракурора пайду... У суд падам, — выкрыкваў нервова Віктар.

Шафран пырскнуў смехам, а пасля зарагатаў і з шырока разяўленым ротам прыпамінаў пазяхаючага ката.

— Прадаваў ты гэты банкнот Костры, ці не? — спытаў ён супакоіўшыся. — А мо' скажаш не? — націскаў ён на Віктара. — А ты паспрабуй даказаць, што банкнот ад мяне атрымаў. Ды памятай, што пакуль з багатага пух — з бед-

# Язэп Бурса

У гаспадара кожны дзень з самай раніцы да позняга вечара хапае працы. Вальнейшы дзень толькі ў нядзелю: тады і даўжэй паспіш і пачытаеш кніжку.

Але Язэпу Бурсе ў гэты дзень таксама не спалася раніцай. Яму чамусьці сталі ўспамінацца мінулыя гады, гады санацыйнай Польшчы, калі ён як сакратар ячэйкі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ў Навасёлках выконваў загады падпольнага райкома, а пасля сам належыў да яго бюро. Кожны год яны, КПЗБ-оўцы, імкнуліся як найурачысцей святкаваць свята працоўных Першага мая. І як бы гранатовая паліцыя не пільнавала, ім заўсёды ўдавалася вывесіць чырвоныя сцягі ў некалькіх месцах. Успаміналіся Язэпу і дні лясной забастоўкі ў канцы 1933 года і на пачатку 1934 года. Асабліва выдзяляліся сваёй рэвалюцыйнасцю жыхары яго вёскі. Лясныя ўлады і назвалі лясных рабочых з іх вёскі «Навасёлкаўскай камунай».

А колькі перажыванняў, усхваляванасці было, калі яны выступалі з мастацкай самадзейнасцю, якой рэпертуар складаўся з беларускіх пастановак і песень.

І вось сёння яго дачка Ніна будзе выступаць на сцэне ў мастацкай самадзейнасці. І, магчыма, у сувязі з тым, што моладзь іх вёскі сёння дае канцэрт мастацкай самадзейнасці, Язэпу Бурсе ўспаміналіся тыя суровыя гады, калі і ён, маладым, выступаў на сцэне, а пасля за гэта ён і яго сябры мелі справы з санацыйнымі ўладамі.

«Шкада, што кароткі век чалавека, — падумаў Язэп. Прайшла маладосць. О, каб сёння быць маладым, якое гэта было бы шчасце! Але нічога. Дзеці нашы затое шчаслівыя, свабодна выступаюць». Язэп устаў хуценька і пачаў рыхтаваць брытву, каб пагаліць і бараду і вылысеўшую галаву. І калі стаў галіцца, прышлі да яго, як заўсёды ў нядзелю, суседзі, былыя самадзейнікі санацыйных часаў.

— Ну што ж, пойдзем сёння пабачым, як нашыя дзеці выступаюць на сцэне ў параўнанні да колішніх нашых выступленняў, — загаварыў адзін з прысутных. — Гэта ж першае мастацкае выступленне ў нашай новай святліцы — дадаў Язэп Бурса. І тут адразу прыпомнілася ўсім, як супольна грамадскім чынам будавалася ў мінулым годзе раміза і святліца. Язэп Бурса з'яўляецца сакратаром партыйнай арганізацыі ў Навасёлках. І партарганізацыя ў значнай меры пасадзейнічала гэтай пабудове. Папрацавала шмат і моладзь. Гурток Саюза сялянскай моладзі, які ўзначальвае дачка Язэпа Бурсы Ніна, мае цяпер усе магчымасці развіцця добрай працы. Ёсць дзе сабрацца, ёсць дзе арганізаваць культурны адпачынак. І цяпер не толькі моладзь, але і старэйшыя збіраюцца ў святліцы пачытаць газеты, пагутарыць, успомніць мінуўшыя цяжкія гады.

М. СВАЯК

нага дух. Калі б дайшло да ўлады, то не я буду сядзець.

— Ну і ўкруцілі, каб ім так шыі ў вяроўкі ўкруціла, — думаў Віктар. Дзе ж я вазьму 10 тысяч. Я ад роду гэтых грошай не бачыў. Ледзь кавалак хлеба для дзяцей запрацуеш. Прадаць гаспадарку і дзяцей з торбай у свет пусціць... Не, лепш ужо самому ў турму ісці. Наварыў кашы, дык значыць і расхлёбвай.

Некалькі дзён хадзіў Віктар маўклівы і пануры. Ён амаль не датыкаўся да ежы, схуд і счарнеў. Дарма неспакойная жонка выпытвала яго. Ён не прызнаўся, што трапіў у пастку, пастаўленую двума камбінатарамі.

«Не, гэтак не можна вытрымаць, — падумаў ён. — Пайду ў Бельск, да пракурора. Што будзе, то будзе». — Ён узяў торбу, улажыў бохан хлеба і кавалак саланіны. Жонка і дзеці неспакойна, але моўчкі прыглядаліся, што ён робіць.

— Ну дык бывайце, — сказаў ён напраўляючыся да дзвярэй, — мо' не скора пабачымся.

Жонка аслупянела. Ёй выдалося, што муж звар'яцеў. Дзеці, гатовыя да плачу, не разумеючы, пaглядалі то на бацьку, то на маці.

— Што з табой, куды ты выбраўся? — кінулася за ім з плачам жонка, калі ён ужо пераступаў парог.

— Ат, — махнуў рукой Віктар, — спуталі мяне шахраі. Не магу больш. Хай лепш у турму пасадзяць. — І ён хутка выйшаў за дзверы.

Каля брамкі падворка яго дагнаў плач жонкі і дзяцей. Ён затрымаўся і па хвіліне нерашучасці вышаў на вуліцу і накіраваўся ў напрамку Бельска.

Вечарам ён вярнуўся дамоў. Пракурор, выслухаўшы яго, пацягнуў да адказнасці валютчыкаў.

САВА

# Коратка аб беларускай мове

Закончыўся навучальны год у школах. І вось цяпер можна падвесці ітог, як выглядала справа з навучаннем беларускай мовы. Для прыкладу возьмем сямікласную школу ў Чаромусе (Гайнаўскі павет).

У школе ў гэтым навучальным годзе вучылася больш 300 вучняў. Беларускую мову вучыла 179 вучняў. Гэта вядома, нямала. Але магло б вывучаць родную мову куды больш школьнікаў. А чаму не вывучала? Хто ў гэтым вінават...? Адказ адзін — бацькі. Напрыклад, Міша Канарэўскі і Яўген Пліс уцякалі вельмі часта з урокаў беларускай мовы. Бацькі аб гэтым ведалі, але ніяк не рэагавалі на ўчынкі сваіх дзяцей. Больш таго. У Міколы Карповіча ў школу хадзіла трое дзяцей. І калі патрэбны былі грошы на сшыткі для беларускай мовы, бацька дзецям не даваў і гэтым самым забараняў ім яе вывучаць. Брыдка, вельмі брыдка так рабіць. Тым больш, што гэта родная мова, на якой сам Мікола Карповіч выгаварваў свае першыя словы.

Брыдка нават перад палякамі. А дзеці палякаў Рамана Вайтыры, Язэпа Шыманюка, Уладыслава Барана і іншых вывучалі беларускую мову і бацькі, не толькі не забаранялі ім вучыцца беларускай мове, а яшчэ іх заахвочвалі.

М. Х.

# Добрая з'ява

Закончыўся школьны навучальны год. Яшчэ адзін год цяжкай працы настаўнікаў, якія вучаць і выхоўваюць нашых дзяцей. Наступілі канікулы.

І многія настаўнікі час канікул выкарыстоўваюць на павышэнне сваіх кваліфікацый, на павышэнне свайго педагагічнага майстэрства. Шмат настаўнікаў бо аж 340 вучыцца ў Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. Многа таксама здабывае вышэйшую адукацыю ў вузах Варшавы, Кракава, Ольштына і іншых.

Месяц ліпень — гэта настойлівая праца над сабой, над атрыманнем ведаў у гэтых установах для многіх настаўнікаў.

Напрыклад, 2 настаўнікі Рагачоўскай школы (Сямяціцкі пав.) Цэзары Акунеўскі і Станіслава Акунеўская з'яўляюцца студэнтамі Завочнай настаўніцкай студыі ў Варшаве. Настаўніца Оля Навіцкая з Катлоў ужо закончыла беларускую філалогію пры настаўніцкай студыі ў Беластоку, а Оля Астроўская і Ніна Навіцкая таксама з'яўляюцца навучэнцамі беларускай філалогіі. На І-ы курс беларускай філалогіі ў гэтым годзе здало экзамены 18 настаўнікаў.

З кожнай сямікласнай школы на Беласточчыне настаўнікі здабываюць вышэйшую або паўвышэйшую адукацыю. Адным словам, большасць настаўнікаў дакладна разумее, што каб паступова пераходзіць да палітэхнічнага навучання, каб удасканальваць метады выхавання, неабходна як мага больш мець ведаў.

М. С.

# З пуцёўкай у жыццё

Празвінеў апошні званок. Настаўнікі і вучні закончылі працавіты чарговы навучальны год. Для школьнікаў ён азначае заслужаны двухмесячны адпачынак, каб пасля канікул, загарэлымі, падросшымі і пасталеўшымі, з новымі сіламі засесці за парту і далей творча здабываць веды. Зараз, з пасведчаннем аб пераводзе ў вышэйшы клас і словамі пахвалы ад бацькоў, разляціцца школьная сям'я ў лагеры адпачынку ці на вёску да бацькоў.

Для часткі школьнікаў апошні званок — гэта апошні дзень прабывання ў школе. Яшчэ нядаўна вучні XI класаў, зараз выпускнікі назаўсёды пакідаюць гасцепрыімныя школьныя класы і поўныя мар, ужо як дарослыя, уваходзяць у жыццё. Гэта незабыўная хвіліна назаўсёды застанецца ў памяці.

Урачыста адзначалі заканчэнне сярэдняй школы і вучні Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску. Адзінаццаць працавітых год засталося за плячыма. Цяпер адчынены ўсе дзверы. Для адных — гэта далейшая ўпорная праца над здабыццём ведаў, але цяпер ужо ў вышэйшых навучальных установах, перад другімі адчынены дзверы да працы ва ўстановах і розных галінах народнай гаспадаркі.

Атрыманне атэстата сталасці — гэта важная падзея ў жыцці чалавека. Так ужо склалася, што кожная значная падзея адзначаецца надта ўрачыста. Урачыста адзначылі заканчэнне школы і выпускнікі Беларускага ліцэя ў Бельску. 18 чэрвеня сабраліся ў школе настаўнікі, бацькі і віноўнікі ўрачыстасці — выпускнікі. Да самай раніцы гучэла музыка, кружыліся ў танцы пары. І калі ў час развітання на вачах ва ўчарайшых вучняў, сёння выпускнікоў, паказаліся слёзы, гэта былі слёзы радасці за паспяхова зданыя экзамены і адначасова слёзы суму па прычыне раставання са школай, настаўнікамі і сябрамі. Так ужо склалася, што на ўсё жыццё ў нас застаюцца найлепшыя ўспаміны аб роднай школе.

Пажадаем усім выпускнікам поспехаў на іх новым жыццёвым шляху.

П. ЧЭРНЯКЕВІЧ



— Самы цяжкі экзамен у жыцці — гэта экзамен на атэстат сталасці. Цяпер перад вамі адкрыты ўсе шляхі. Дзе б вы не былі, ніколі не забывайце аб сваёй роднай школе. — так развітваўся Яраслаў Кастыцэвіч са сваімі выхаванцамі.



Тост за здароўе настаўнікаў.



Апошні вальс! Якімі шматзначнымі былі гэтыя словы для выпускнікоў.



Памятны здымак... і бывай школа.

